


МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993
КАСТРЫЧНІК
19
АЎТОРАК
№ 198 (633)
Цана
20 рублёў


# СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

## ІНАЎГУРАЦЫЯ УНІВЕРСІТЭТА

**Кампанія ўсеагульнай універсітэтызацыі, якая ахапіла ў апошні час вышэйшыя навучальныя ўстановы Мінска і рэспублікі, дайшла і да інстытута культуры. Дакладней, такі статут ў гэтага асяродка ведаў быў яшчэ на мінулым тыдні. Бо з суботы на ім ужо красуецца новая шыльда — Універсітэт культуры. А папярэднічала гэтай падзеі інаўгурацыя, што праходзіла ў Мінскім доме афіцэраў. Студэнтаў павіталі пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы, міністр культуры Яўген Вайтовіч і іншыя адказныя таварышы, былыя навучэнцы. Усё было на ўздыме, ганарова і весела. Цёплыя словы ішлі разам з песняю, а калі спявае свая ж, цяперашняя студэнтка ўжо універсітэта Ліка Ялінская, напрыклад, то, вядома, не засумуеш.**

**Алесь НЮРЫН.**

## ЭНЕРГІЯЙ НЕАБХОДНА КІРАВАЦЬ

Учора ў Мінску пачаў работу міжнародны семінар «Энергаўлік і кіраванне». Яго арганізатары — французская фірма «Адем», Мінскі энергацэнтр Еўрапейскага супольніцтва, Беларускі навукова-вытворчы і інфармацыйны цэнтр энергазберажэння.

Удзельнікі семінара — вядучыя спецыялісты ў галіне энергазберажэння краін Заходняй Еўропы, а таксама СНД абмяркуюць прынцыпы кіравання энергіяй, пытанні выкарыстання пры гэтым вылічальнай тэхнікі, сістэм энергаўліку. У час работы семінара будзе арганізавана выстаўка вытворцаў лічыльнікаў, вымяральнага абсталявання і праграм па вылічальнай тэхніцы.

## «КНІЖНІК ЯРЫЛА» — У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА

**Сёння Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада сумесна з Домам літаратара праводзіць вечарыну «Кніжнік Ярыла», прысвечаную 110-м угодкам аднаго з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады, публіцыста і літаратуразнаўца Вацлава Ластоўскага. Вечарына адбудзецца ў Доме літаратара ў 18.30.**

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

## А У НАС... ОТКЛЮЧИЛИ ГАЗ

15 октября студенты Белорусского технологического института объявили забастовку.

Каплей, переполнившей чашу терпения, стало отключение газа в одном из общежитий, а еще перед этим будущие технологи в результате разрыва теплопровода лишились горячей воды и тепла. Как сообщил корреспонденту агентства РИД ректор института И.М.Жарский, еще несколько лет назад Совмин принял решение о переводе общежития на пользование электроплитами вместо газовых, однако из-за отсутствия средств необходимые работы не были проведены. Зато исправно выполняется постановление в другом направлении: отключен газ. В беседе с ректоратом студенты решили приостановить забастовку и подождать следующего решения горгаза.

**Юрий ЛЕШКЕВИЧ.**

## И выпить, и закусить!

Было чем в день пищевика, 15 октября, бывшим пивоварам арендного предприятия пивзавода «Крыніца» столицы республики. Каждому пенсионеру к этому дню вручили по бутылке шампанского и 5 банок тушенки, дорогие конфеты, по 10 пачек «Цевиты» и по 17 тысяч рублей единовременной помощи. Ежемесячно вместе со всеми по более низким ценам на предприятии пенсионеры получают различные продукты питания.

**Анатолий РОМАНОВИЧ.**

## *Скоро на прилавках появятся словацкие ликеры, моравские консервы, южноамериканское кофе...*

**Завершилась очередная международная выставка «Бизнес-контакт 93». Многие участники очень довольны ее результатами. Так, фирма PIZINOK (Словакия) заключила договоры на поставку в Минск ликеров и бренди своего производства. Уже в ноябре минчане смогут продегустировать эти напитки. Как и кофе из Южной Америки, поставлять который будет фирма «НН Корпорейшн». Продукты питания из Моравии понравились белорусским коммерсантам как качеством, так и ценами (они рассчитаны на среднего покупателя). Скоро на прилавках минских магазинов наверняка появятся пиво, консервы, конфеты, концентраты из г. Оломоуц от фирмы Art com.**

**Проявлен и большой интерес к чешской парфюмерии: представители всех крупных магазинов Минска договаривались о поставке этих товаров с фирмой «Интекс-1» (Минск). Красители из Чехии — 150 цветов и оттенков для кожи, пластмасс, алюминия, химических волокон и др., предложенные этой же фирмой, заинтересовали снабженцев белорусских и российских заводов и фабрик. А значит, их товары станут красочнее и конкурентоспособнее. Меньше интересовались стендом фирмы «KORAK» (пробки для всех видов бутылок). И напрасно: без ярких, оригинальных пробок продукции наших предприятий вскоре будет труднее конкурировать с пускай и не лучшими по качеству, но ярче оформленными и упакованными импортными напитками. Выставка оправдала свое название — контакты установлены, контракты подписаны.**

**Михаил ВАЛЬКОВСКИЙ.**

## ШЧЫРА ЗАПРАШАЕМ

Адкрылася капліца грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы па вул. Прытыцкага, 38.

Набажэнствы адбываюцца штодня а 19 гадзіне. У нядзелю — два набажэнствы: а 10 і 19 гадзінах.

■ НА ПОРОГЕ ЗИМЫ

# ОБСТАНОВКА ВНОВЬ КРИТИЧЕСКАЯ

Ольга ЖАРИНА, «ДВ».

**Вчера в пресс-центре Мингорисполкома шла речь о готовности города к зиме, о том, будет ли тепло в наших квартирах, смогут ли нормально работать промышленные предприятия. На вопросы журналистов отвечали заместитель председателя горисполкома В.БЕЛОХВОСТОВ, начальник «Минскэнерго» Ю.НИКИТИН, начальник «Мингаза» М.ПОПОВ и заведующий отделом энергетики и топливных ресурсов горисполкома В.ДАЦЕНКО.**

— По техническому обеспечению город к зиме в основном готов, — сказал В.Белохвостов, — но все же обстановка критическая, нет уверенности, что система будет функционировать нормально весь сезон. А все потому, что нечем расплачиваться за энергоресурсы. Совет Министров принял постановление, по которому все предприятия должны платить за топливо российскими деньгами. Но на сегодняшний день от промышленности не поступило ни одного российского рубля на счет в «Мингаз» или «Минскэнерго».

Ю.Никитин дополнил картину, сообщив, что на городских энергоисточниках запас топлива гораздо меньше, чем в конце прошлого отопительного сезона. Заключены договоры на поставку 900 тыс. тонн мазута, но платить пока нечем. Еще сложнее с природным и сжиженным газом. Чтобы рассчитаться с Россией за газ, Минская область должна до 20 октября заплатить 7,5 млрд. рублей. Но понятно, что этот срок уже нереальный. К тому же поставщик требует платить вперед за 5-10 дней.

Так что пока нашему правительству удастся договориться и продлить сроки платежей, не исключено, что придется отключать энергию на некоторых предприятиях, прежде всего тех, которые продают свой товар в Россию. Возможно, прекратится и подача сжиженного газа на автозаправку и населению.

Чтобы стабилизировать обстановку, горисполком просит Национальный банк в ближайшие 2 месяца обеспечить покупку 64 млрд. российских рублей для потребностей энергетики Минска.

Вот такая непростая ситуация сейчас в городе. Но, по словам участников пресс-конференции, жителей столицы топливный кризис не должен коснуться. Ограничений тепла для жилого фонда пока не предвидится.

Кстати, у нас в редакции в последние дни раздавались звонки, и минчане жаловались, что в некоторых районах в квартирах очень жарко. Корреспондент «Добрага вечара» попросил специалистов прокомментировать это. В.Даценко объяснил, что если до минимума понизить температуру в домах, то сильно понизится и температура воды, она будет едва теплая, а это тоже вряд ли устроит жителей.

Конечно, бывают ситуации, когда не срабатывают работники ЖЭСов, они не успевают вовремя регулировать температуру в домах. А централизованно это делать невозможно. Видимо, именно о таких случаях и сообщали читатели газеты.

## КАЛЯНДАР

**Аўторак, 19 кастрычніка.**

*СОНЦА — 6.44/17.05. Даўжыня дня — 10.22.*

**МЕСЯЦ** — *першая квадра 22 кастрычніка,*

*усход 10.31/захад 18.10.*

**ІМЯНІНЫ**

*Сёння:*

*Праваслаўныя — Апостала Фамы.*

*Каталіцкія — Яна, Паўла, Ізака.*

*Заўтра:*

*Праваслаўныя — Вакха, Сяргея, Пелагеі, Юльяна.*

*Каталіцкія — Ірыны, Яна.*

■ РЭХА ПАДЗЕІ

# У ЖЫЦЦІ ЗАЎСЁДЫ ЁСЦЬ МЕСЦА СВЯТУ

Цяжкі час перажывае наша эканоміка. Крызісу ў сферы вытворчасці не пазбегла ні адно беларускае прамысловае прадпрыемства. Мінскае арэнднае прадпрыемства «Крыніца» — буйнейшы вытворца ў рэспубліцы піва і прахаладжальных напіткаў — не выключэнне. І тым не менш, нягледзячы ні на якія цяжкасці, добрая традыцыя штогадовага святкавання Дня прадпрыемства тут не парушана. Вось і 15 кастрычніка работнікі «Крыніцы» ўрачыста адзначалі чарговую гадавіну заснавання прадпрыемства. На гэты раз павіншаваць іх прыехаў кіраўнік беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч. Ён азнаёміўся з вытворчасцю, меў гутаркі з генеральным дырэктарам прадпрыемства Уладзімірам Бадровым, інжынерамі, тэхнолагамі, рабочымі. Станіслаў Шушкевіч высока ацаніў узровень вытворчасці, падкрэсліўшы, што, нягледзячы на тое, што яна не з'яўляецца стратэгічнай для нашай эканомікі, важнасць яе цяжка пераацаніць. Вопыт работы прадпрыемства ў новых умовах можа служыць прыкладам для многіх нашых прадпрыемстваў. Станіслаў Шушкевіч выступіў з прамовай перад работнікамі «Крыніцы» і адказаў на іх шматлікія пытанні.

**НА ЗДЫМКУ: падчас сустрэчы С.Шушкевіча з работнікамі АП «Крыніца».**

БЕЛІНФАРМ. Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.

## КУРС ОБМЕНА наличной валюты в обменных пунктах коммерческих банков г.Минска на 18 ОКТЯБРЯ 1993 года

| Наименование банка | Доллар США: Покупка, Наличный расчет | Доллар США: Покупка, Чековая книжка | Доллар США: Продажа | Немецкая марка: Покупка, Наличный расчет | Немецкая марка: Покупка, Чековая книжка | Немецкая марка: Продажа | Российский рубль: Покупка | Российский рубль: Продажа |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Минское отделение АРКБ "Комплекс" | 3080 | 3250<br>3500 | 3220 | 1925 | 2030<br>2185 | 2010 | 2.30 | 2.50 |
| АКБ "Белбизнесбанк" | 3050 | 3355 | 3250 | 1850 | 2035 | 2030 | 2.20 | 2.4 |
| АКБ "Белвнешэкономбанк" | Сведения не предоставлены | | | | | | | |
| АКБ "Белпромстройбанк" | 3100 | не принимают | 3250 | 1900 | не принимают | 2050 | 2.30 | 2.55 |
| АКБ "Беларусь" | 3000 | 3120<br>3256 | 3300 | 1877 | 1952<br>2037 | 2064 | 2.10 | 2.30 |
| АКБ "Дукат" | 3110 | 3420 | 3350 | 1940 | 2130 | 2040 | 2.00 | 2.30 |
| АКБ "Поиск" | 3100 | не принимают | 3300 | 1925 | не принимают | 2045 | ---- | ---- |
| АКБ "Приорбанк" | 3100 | 3410 | 3320 | 1940 | 2135 | 2080 | ---- | ---- |
| КБ "Северо-запад" | Сведения не предоставлены | | | | | | | |

■ Информация подготовлена "Агентством Гревцова"

■ ЗАЯВЫ

# У АБАРОНУ СВЯТЛАНЫ АЛЕКСІЕВІЧ

**У абарону вядомай пісьменніцы Святланы Алексіевіч, якая праследуецца за кнігу «Цынкавыя хлопчыкі», дзе сказала праўду аб афганскай трагедыі, выступіла Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі.**

**У заяве, прынятай з гэтай нагоды, гаворыцца, што сваёй творчасцю Святлана Алексіевіч паказвае: галоўная каштоўнасць у гэтым жыцці — чалавек, якога злачынна пераўтварылі ў вінцік дзяржаўнай машыны, выкарыстоўваюць як гарматнае мяса ў амбіцыёзных войнах, развязаных дзяржаўнымі лідэрамі.**

**Менавіта выкрыванне палітычных «ястрабаў», для якіх вайна — натуральны сродак палітыкі, з'яўляецца прычынай праследавання пісьменніцы. Гэтыя дзеячы не грэбуюць ніякімі сродкамі, выкарыстоўваюць у барацьбе супраць Алексіевіч людзей, якія найбольш пацярпелі ад вайны: маладых хлопцаў, якія рызыкавалі жыццём, сталі інвалідамі, маці загінуўшых салдат. Ад іх імя падаюцца іскі ў суд, у якіх пісьменніца абвінавачваецца ў скажэнні фактаў.**

**Рада Аб'яднанай дэмакратычнай партыі заклікае аўтараў гэтых іскаў задумацца, а сумленных людзей прыкласці ўсе намаганні, каб спыніць гэты палітычна-судовы працэс, які ганьбуе нас перад цывілізаваным светам.**

■ РЕПОРТАЖ

# НОВЫЙ ЦЕНТР, КАКОГО ЕЩЕ НЕ БЫЛО

Лариса КОКТЫШ, «ДВ».
Фото Аркадия НИКОЛАЕВА, БЕЛИНФОРМ.

**Состоялась торжественная презентация первого в нашей республике Центра по пересадке костного мозга. Он открылся на базе 9-ой клинической больницы. На презентации присутствовали члены правительства Республики Беларусь, представители зарубежных фирм, общественных организаций, специалисты.**

Впервые. Это слово повторялось очень часто на состоявшейся пресс-конференции руководства больницы, горздрава и Минздрава Республики Беларусь с журналистами. Да, это теперь уже возможно — в Минске будут проводиться уникальные по сложности операции по пересадке костного мозга.

— Сама операция не так сложна, как ее техническое обеспечение, включая дооперационный и послеоперационный период, — рассказал главврач 9-ой клинической больницы Александр Викентьевич Скачко.

Действительно, Центр — это целый медицинский комплекс, включающий отделения интенсивной терапии, гематологии, реанимации, комплексно-лабораторной службы, банк костного мозга и другие. Их оснащение предполагает высочайший уровень и медицинских, и технических знаний. Это, без всякого преувеличения, больница будущего.

Экскурсия в самое «сердце» Центра — отделение по пересадке костного мозга — была для журналистов уникальной возможностью увидеть все своими глазами. Больше сюда журналистов не пустят: условия абсолютной стерильности диктуют и абсолютное затворничество больных, а также медицинского и обслуживающего персонала (персонал тут будет работать безвыходно по 12 часов).

Итак, нажимаем кнопку звонка на входной заблокированной двери, а на пульте дежурной медсестры звонит видеотелефон, и на экране видно, кто идет. Короткие переговоры — дверь открывается.

Длинный коридор — по обеим сторонам «чистые палаты»: 5 для взрослых пациентов, 2 — для детей. Специально для нас одну разгерметизируют.

Двойные двери устроены так, что воздух снаружи в палату не попадает. Он, очищенный, поступает сюда из специальных воздухозаборов, что установлены на крыше здания. Поток направлен таким образом, что идет только в одном направлении — от изголовья больного. Врач, обслуживающий больного, находится за специальной прозрачной перегородкой. Все необходимые датчики приборов выведены на пульт, связь — через пневмопочту. Такую клинику видеть еще не приходилось. И неудивительно: она, как сказали главные специалисты больницы, не уступает лучшим клиникам мира.

Впечатляет и другое — срок реализации идеи. Сейчас принято говорить о трудностях, но вот пример: когда за дело берутся, по определению А.В.Скачко, фанаты, преграды исчезают одна за другой. В 1991 году родилась идея проведения операций по пересадке костного мозга, и не кончился еще 1993-й, как Центр уже открывается. Все проектные и строительные работы сделаны всего за 10 месяцев, монтаж оборудования — за полгода.

— В Центральном институте переливания крови в Москве я увидел отдел по пересадке костного мозга, — рассказал главврач А.В.Скачко. — Для нашей республики, особенно после чернобыльской беды, идея создания аналогичного центра была особенно актуальна. Неизвестно, рассказал дальше А.В.Скачко, сколько бы времени ушло на поиски путей воплощения идеи, если б судьба не свела его с руководством завода «Интеграл». На этом предприятии совместно с фирмой «БАБККОК» строили свои модульные палаты. Начались переговоры и, естественно, один из главных вопросов — финансовый: сколько все это будет стоить?

— Мы не приехали нажиться на вашей беде, — ответил президент фирмы г-н Клиншпор.

Так началось это большое дело с ПО «Интеграл» и фирмой «БАБККОК». Были выделены ассигнования, заключен договор. Помогали все — правительство, Минздрав, горздрав. Выделили валюту предприятия — Мозырский, Новополоцкий нефтеперерабатывающие заводы, Солигорский «Беларуськалий» и другие. В итоге на строительство затрачено 5,6 млн. ДМ или 4 млн. долларов. Это половина требуемой суммы. Фирма «БАБККОК» не ограничилась исполнением работ по договору, а начала вовлекать в это дело общественные организации Германии, в частности, немецкий Красный Крест. На его деньги (а это 3,6 млн. марок) было закуплено оборудование, медикаменты, организовано обучение кадров в Ганноверской высшей медицинской школе. Около 30 наших врачей и медсестер прошли там подготовку. Специалисты проходили также стажировку в Англии, Италии (помог благотворительный фонд из гор.Пьезора), помогали фирма ИФА «Медицина — катастроф» из Германии, Красный Крест Лейпцигского района. Поистине создание этого центра оказалось делом общим.

На все вопросы журналисты получили подробные ответы. Вот некоторые из прозвучавших на пресс-конференции.

Корр.: — *По каким критериям будет производиться отбор больных в клинику?*

**Анатолий Леонидович Ус, руководитель Центра:** — Есть международные нормативы, их мы и будем придерживаться. Например, около 30-40 процентов больных раком щитовидной железы нуждаются в пересадке костного мозга. Но есть много противопоказаний: различные вирусные заболевания, в том числе гепатит, ряд других, а также возрастные ограничения. Всего за год на 7 койках можно пролечить 117 больных.

Корр. — *Сколько стоит проведение такой операции?*

**Александр Викентьевич Скачко, главврач:** — От 100 до 200 тысяч долларов. Конечно, лично пациент платить ничего не будет, это все вопросы Минздрава. Ну, и что важно, в течение трех лет нам будет еще давать немецкая сторона 1 млн. марок.

Корр. - *На какой основе будут работать в Центре иностранные специалисты? И каковы перспективы центра?*

**Евгений Петрович Иванов, директор института гематологии, главный гематолог Минздрава РБ:** — В ноябре-декабре сюда приедет бригада медиков из Ганновера. А наши поедут туда, в их мединститут. Второй вопрос. На базе этого Центра организован методологический кабинет. Он связан с облздравотделами и областными гематологами. Именно они будут работать по подбору пар (донор — больной). Тут, на месте, им будем проводить полное дополнительное обследование. Мы сегодня уже подготовили всех главных гематологов и без областных центров фактически не сможем наблюдать своих больных. Сейчас структуры института перепрофилированы на эту проблему. Ведь по сути мы подходим к совершенно новому этапу в медицинской науке — смене генов во всех аспектах. Открываются, к примеру, перспективы лечения гемофильных больных.

**Игорь Борисович Зеленкевич, заместитель председателя Мингорисполкома:** — Мы рассматриваем этот Центр как первый этап. Со временем он станет городским. В перспективе планируется строительство аналогичного республиканского комплекса в Боровлянах на 32 койки.

Корр.: — *Когда планируется проведение первой операции?*

**А.Л.Ус:** — В ноябре-декабре. Сейчас у нас уже находятся 4 больных с лейкемией, мы проводим их обследование и лечение.

**Итак, первый в республике Центр по пересадке костного мозга открыт. Центр передовой медицинской науки, самой современной практики, международного сотрудничества. Центр энтузиастов и интеллектуалов высочайшей пробы.**

**Спасибо всем, и успешной вам работы.**

■ *Церемония передачи символического ключа*



■ *В стерильной палате Центра*

■ ГЭТА ФАКТ

# КЛІЧУЦЬ ТУРЫСЦКІЯ СЦЕЖКІ

Ларыса РУСАК, «ДВ».

**Турызм не ведае межаў. І ўсё ж з распадам Саюза паўсталі шматлікія бар'еры і на турысцкіх сцяжынках. Каб нейкім чынам выправіць існуючае становішча, і сабраліся ў Мінску прадстаўнікі турыстычных ведамстваў краін СНД. Вынікам іх работы стала парафіраванне пагаднення аб супрацоўніцтве.**

**Менавіта гэтай падзеі і была прысвечана прэс-канферэнцыя, якая адбылася 15 кастрычніка ў Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь.**

**На канферэнцыі адзначалася, што заключанае пагадненне прадугледжвае развіццё турыстычных адносін паміж народамі далёкага і блізкага замежжа, забеспячэнне бяспекі турыстаў, іх статыстычнага ўліку. Узнімаліся таксама праблемы, звязаныя з абменам валюты, транзітнымі візамі і г.д. Гэта, безумоўна, ускладніла жыццё турыстам. І ўсё ж, як заўважыў прадстаўнік Расіі, у параўнанні з ранейшымі гадамі, турыстаў менш не стала. А гэта значыць, што сімвал нашай эпохі не толькі чалавек з ружжом, але і чалавек з рукзаком. Хутчэй бы толькі апошні выцесніў першага!**

## КАНФЛІКТНАЯ СІТУАЦЫЯ

*540 дзён пратэстуе гэта жанчына супраць беззаконня праваахоўных, дзяржаўных і ўрадавых органаў, 368 з іх — у будынку Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь. За гэты час напісана 1300 скаргаў, зваротаў, заяў у Вярхоўны Савет, Савет Міністраў. Своеасаблівы рэкорд, падобных якому, відаць, няма нават у кнізе Гінэса. Мяркую, чытачы пазналі вядомую па мінулых публікацыях у «Добрым вечары» Ларысу Сяргееўну Перцаву, якая страціла работу таму, што выявіла фінансавыя махінацыі кіраўніцтва Мінскай гарадской калегіі адвакатаў.*

# БЛУКАННЕ ПА ПАКУТАХ,

## АБО ПРАЦЯГ ГІСТОРЫІ ПРАЎДАШУКАЛЬНІЦТВА ЛАРЫСЫ ПЕРЦАВАЙ

Таццяна ЛАЗОЎСКАЯ, «ДВ».

ЗДАВАЛАСЯ, час капітуляваць, здацца перад непрабіваемай сцяной чыноўніцкай абыякавасці да яе лёсу, непераадольных бар'ераў, якія наўмысна чыняцца на шляху да справядлівасці. Праўдашукальнікаў ва ўсе часы не любілі на Белай Русі. Насуперак агульначалавечым законам чыноўнікі аб'ядноўваліся для барацьбы з імі, часова забываючы асабістыя крыўды і непаразуменні: замах на аднаго з «сабратоў» расцэньваўся як замах на святое святых — Сістэму, дакладна адбудаваную, адладжаную, выпеставаную за многія гады. Многіх шукальнікаў ісціны пазбавіла магчымасці зарабіць на кавалак хлеба, зрабіўшы непаўнацэннымі людзьмі. На Ларысе Перцавай Сістэма спатыкнулася — не ўлічыла яе жыццялюбства, высокіх маральных якасцей, сабранасці, волі, імкнення дайсці да праўды. І чым хутчэй набірае абароты чыноўніцка-дзяржаўная махіна з яе шматлікімі структурамі і інстытутамі супраць безабароннай жанчыны, тым настойлівей, больш рашучай становіцца яе барацьба за выжыванне, маральнае і фізічнае, вяртанне добрага імя.

10 мая Ларысу Перцаву і яе бацьку, інваліда Вялікай Айчыннай вайны Сяргея Мікалаевіча Кузняцова, які, дарэчы, вызваляў Мінск ад фашысцкіх захопнікаў, выгналі з будынка Міністэрства юстыцыі. Жанчына вымушана працягваць пратэст на вуліцы.

Холадна, няўтульна. Са здзіўленнем, спагадай глядзяць на «дзівачку» прахожыя, цікавяцца прычынамі незвычайнай акцыі. Выслухоўваюць і ў адказ рукой махаюць, маўляў, не такіх ламалі...

І толькі бяздомныя кошка і сабака, несправядліва кінутыя гаспадарамі, адчуўшы ласку і спагаду, знайшлі прытулак каля жанчыны. Апошні нават дазваляе сабе недазволенае: гыркаць на чыноўнікаў Мінюста...

За лета Ларыса Перцава аб'яднала ў Саюз грамадзян, якія пацярпелі ад юрыдычных і палітычных рэпрэсій у 80-90-ыя гады, такіх жа незаконна звольненых з работы суайчыннікаў. Аднак ні ў адной дзяржаўнай установе гэты факт не прызнаюць са спасылкай на Пастанову Вярхоўнага Савета ад 21 снежня 1990 года аб рэабілітацыі грамадзян, пацярпеўшых ад рэпрэсій у 20-80-ыя гады, якая распаўсюджваецца на тых, хто прайшоў зоны, турмы, гулагі. Тое, што Перцава сем гадоў без работы, сродкаў да жыцця, што да яе неаднаразова прымяняліся метады фізічнага ўздзеяння, у разлік не бярэцца. Дзяржаўных чыноўнікаў не хвалююць праблемы асобнага чалавека альбо групы людзей. Пераступаючы праз іх лёс, яны нібыта вяршаць глабальныя справы дзеля дабрабыту народа, забываючы простую рэч: нельга «облагодетельствовать» усіх, выціраючы ногі аб канкрэтнага чалавека.

— Куды я ні звярталася, — расказвае Ларыса Сяргееўна, — намёкам, а то і адкрытым тэкстам даюць зразумець: за намі Сістэма, мы — сіла...

А для мяне Сістэма — паняцце абстрактнае. За ёй стаяць канкрэтныя людзі. У маім выпадку — Генеральны пракурор В.І.Шаладонаў, Старшыня Вярхоўнага суда У.С.Каравай, народны дэпутат рэспублікі, старшыня Пастаяннай парламенцкай камісіі па заканадаўству Д.П.Булахаў. Людзі, якія ў сілу свайго службовага становішча павінны выконваць законы і кантраляваць іх выкананне іншымі пасадавымі асобамі. Аднак, пабываўшы нядаўна ва «ўладаннях» спадара Каравая, я выявіла цікавую дэталь, якая сведчыць, што нават для Вярхоўнага суда законы не пісаны...

Каб зразумець, аб чым ідзе гаворка, звернемся да перадгісторыі «справы» Перцавай. У 1985, другі раз у 1987 годзе, пасля таго, як яна выявіла падробку подпісаў у фінансавых дакументах, раскраданне грошай і паставіла перад фактам кіраўніцтва Мінгаркалегіі адвакатаў, яе звальняюць з пасады галоўнага бухгалтара, аддаюць пад суд і прыгаворваюць да двух гадоў папраўчых работ за «халатныя» адносіны да работы. Былы міністр юстыцыі В.Г.Ціхіня ў адказ на самавольства суддзяў выносіць прадстаўленне аб незаконнасці прысуду і яго адмене, паколькі ў ім няма пункта аб утрыманні працэнта заработнай платы, што супярэчыць юрыдычным нормам, і аднаўляе Л.Перцаву на былой пасадзе.

Аднак праз пяць гадоў Вярхоўны суд завочна ўносіць у рашэнне народнага суда Маскоўскага раёна ад 1 лютага 1988 года пункт аб утрыманні з Перцавай 20 працэнтаў заработку. Вывад адзін: прысуд, вынесены ў 1988 годзе, наўмысна змяняецца, дапаўняецца, каб бязвіннага чалавека зрабіць вінаватым.

Спадарыня Перцава звярнулася ў Вярхоўны Савет, Савет Міністраў з просьбай стварыць камісію з мэтай праверкі факта фальсіфікацыі. Хутчэй за ўсё, адказ яна не атрымае — існуе пісьмовае прадпісанне з Вярхоўнага Савета, цытую даслоўна: «... далейшая перапіска з Вамі па гэтаму пытанню спынена».

— У пачатку верасня я пабывала на прыёме ў народнага дэпутата, Старшыні Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета па заканадаўству Дзмітрыя Пятровіча Булахава, — дзеліцца Л.Перцава, — прадаставіла дакументы. Але ён мне заявіў літаральна так: «Ларыса Сяргееўна, я ведаю: вы не любіце пэўных пасадавых асоб, яны не любяць вас, і мне застаецца далучыцца да іх нелюбові».

Гэтыя словы прагучалі для мяне, як гром з яснага неба, — я прыйшла да спадара Булахава не высвятляць асабістыя адносіны, а з просьбай запатрабаваць маю справу, вывучыць яе і даць юрыдычную ацэнку.

Літаральна праз дзень пасля візіту я атрымала адказ за подпісам Булахава, што вывучыць і перагледзець справу няма магчымасці, паколькі не прадастаўлены новыя дадатковыя дакументы.

Па сутнасці, Ларысе Сяргееўне ўручылі яшчэ адну бюракратычную адпіску. На мой погляд, усё, што датычыла незаконнага прысуду, выкладзена В.Ціхіняй. Да сумна вядомай «віцебскай справы» следча-судовыя органы вярнуліся праз дзесяць-пятнаццаць гадоў, калі бязвінна загінуўшыя людзі даўно парылі зямлю, справы, якая не ідзе ні ў якое параўнанне з просценькай справай Перцавай.

Л.Перцава:

— У другі раз я «наведала» Дзмітрыя Пятровіча Булахава разам з Лідзіяй Паляковай, настаўніцай, незаконна звольненай з работы дырэктарам СПТУ-103 Г.Сяркуцьевым пасля сумнавядомых маскоўскіх падзей. Наколькі памяняліся пазіцыі Дзмітрыя Пятровіча! Ён нават выказаў меркаванне накшталт: у тых, хто доўга ходзіць па «высокіх» кабінетах, з'явіўся праменьчык надзеі — як толькі зменіцца склад парламента, знойдуцца людзі, якія вырашаць нашы пытанні.

Выбары, як бы ні супраціўляліся дэпутаты — былыя сакратары гаркамаў ды абкамаў, не за гарамі. Разумнейшыя з наменклатуры, якія ўмеюць думаць, аналізаваць (ёсць нямала і такіх, мяркую, у іх кагорце і спадар Булахаў), гэта прадбачаць. Каб набраць ачкі перад выбарамі, застацца пры ўладзе, яны гатовы пайсці насустрач Перцавай і ёй падобным. Аднак, на маю думку, позна: большасць людзей зразумела, хто ёсць хто... Ну, а справа Ларысы Сяргееўны, думаю, нарэшце вырашыцца, калі да ўлады прыйдуць новыя людзі, не лжэ-, а сапраўдныя дэмакраты. Пацвярджэнне сваім думкам атрымала ў размове з дэпутатам Вярхоўнага Савета ад апазіцыі Ю.А.Беленькім, які знаёмы са справай Л.С.Перцавай і пагадзіўся даць каментарый:

— Сітуацыя спадарыні Перцавай вельмі простая. Працуючы галоўным бухгалтарам Мінскай гарадской калегіі адвакатаў, яна выявіла крадзеж грошай касірам Стрэльскай і давяла да ведама кіраўніцтва. Але замест таго, каб аддзячыць за пільнасць, яе аддаюць пад суд. Наконт Ларысы Сяргееўны Перцавай у мяне адбылася размова з Генеральным пракурорам спадаром Шаладонавым. Яго думка такая: па-першае, гэта было даўно, па-другое, фактычна пакаранне Перцава не адбывала, трапіла пад амністыю — ці варта варушыць мінулае, тым больш, як сцвярджае Генеральны пракурор, ёсць фармальная падстава прыцягнення яе да адказнасці.

Мая думка на гэты конт дыяметральна супрацьлеглая. Жанчына сумленна выконвала свае абавязкі, кантралявала начальніка і работнікаў Мінгаркалегіі адвакатаў, у выніку чаго і знайшла раскраданне грошай. І з маральнага, і з юрыдычнага пункта гледжання праўда на яе баку. Тым больш, што юрыдычна можна зачапіцца за няпэўны, двухсэнсавы артыкул, каб абвінаваціць чалавека, што і было зроблена.

Але корань зла, як кажуць, трэба шукаць у іншым. Чыноўніцтву, якое незаконна расправілася з жанчынай, трэба прызнацца ў выпадковай ці наўмыснай памылцы, прынесці публічнае прабачэнне. А яны баяцца стварыць такі прэцэдэнт.

*Спадарыня Перцава — мужная жанчына. Нягледзячы на многія перашкоды, якія чыняцца на шляху да справядлівасці, яна мае намер весці барацьбу да канца. Але, на мой погляд, хутчэй за ўсё пры цяперашнім урадзе (а ён не можа пайсці насустрач, парушыць Сістэму, кругавую паруку) справядлівасці не бачыць. Пытанне Ларысы Перцавай і ёй падобных вырашыцца толькі тады, калі рассыплецца гэта Сістэма, будзе выбраны новы дэмакратычны парламент і адпаведна — дэмакратычныя структуры.*

## ЭХО СОБЫТИЯ

Митинг, посвященный 50-летию первого боя дивизии имени Костюшко у деревни Ленино Горецкого района, состоялся у Музея советско-польского боевого содружества. В нем приняли участие официальные делегации обеих сторон, ветераны первой дивизии имени Костюшко и 33-й армии, воины Вооруженных Сил Беларуси, представители общественности.

Состоялся поминальный молебен, который провели служители православной и католической церквей. Были открыты мемориальные доски, посвященные исторической дате, возложены венки к подножиям монументов и Вечному огню в память о погибших воинах.







**НА СНИМКАХ:** во время митинга; церемония возложения венков у Вечного огня в память о погибших воинах; участники боев под Ленино бойцы первой дивизии Тадеуша Костюшко.

Фото Александра ТОЛОЧКО, БЕЛИНФОРМ.

## КРЫМІНАЛ

# АСЦЯРОЖНА, ФАЛЬШЫЎКА!

Дзмітрый ГРЫВЕНСКІ.

Маладая дзяўчына-касір, ветліва ўсміхаючыся пакупнікам, не забывае праверыць наяўнасць вадзяных знакаў на буйных купюрах. Такая сітуацыя стала звычайнай у нашых магазінах. І не дзіва: у рэспубліцы зафіксавана больш за восемсот выпадкаў, калі былі выяўлены фальшывыя грошы.

Сярод «зайчыкаў» бясспрэчна «лідзіруюць» банкноты наміналам 500 рублёў (пяць тысяч). Большасць фальшывак зроблена на лазерным прынтэры. Першы раз канфіскавалі падробку 7 ліпеня ў Брэсце, а ўсяго за апошні час выяўлена больш за 150 фальшывых разліковых білетаў. У гэты спіс трапілі і купюры вартасцю 50, 100, 200 рублёў. Цікава, што падробкі з адным і тым жа нумарам з'яўляліся ў розны час і ў розных месцах. Быў выпадак, калі за адзін дзень у адной гандлёвай кропцы канфіскавалі амаль 30 фальшывых банкнот. Часцей за астатнія гарады падробкі наведваюць Мінск і Гомель, ну а пік «разгулу» фальшывак прыпадае на апошнія дзесяць дзён верасня.

Сярод гасцей з далёкага замежжа ў спісе фальшывых грошай часцей за астатніх сустракаюцца «зялёненькія». Асаблівай папулярнасцю ў фальшываманетчыкаў карыстаюцца 100-доларавыя купюры, а таксама «дваццаткі». Не выпалі з гэтага спіса і нямецкія маркі. Тут таксама ўпэўнена лідзіруе «сотка». Здаралася, што канфіскавалі падробкі грашовых знакаў Швецыі, Італіі, Фінляндыі, Польшчы.

Натуральна, што не абыдзены ўвагай і грошы Расіі. На тэрыторыі Беларусі выяўлены падробкі ўсіх буйных купюр — ад 1000 да 50000 рублёў. Побач з імі ўжо неяк недарэчна і сіратліва выглядаюць фальшывыя «траячкі» ды «пяцёркі» Дзяржбанка СССР.

Засталося толькі дадаць, што спісы фальшывых банкнот з указаннем нумароў ёсць у камерцыйных банках, Міністэрстве гандлю, Белкаапсаюзе, Белсувязі, Дзяржаўным мытным камітэце і галоўных упраўленнях Нацыянальнага банка. Ну а што рабіць нам з вамі, каб не «купіцца» на фальшыўку? К.Пруткоў даўно ўжо адказаў на гэта пытанне: «Бди!» Не паленуйся, дарагі чытач, лішні раз глянуць на святло сваю буйную «паперчыну».

## ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ




Мал. Яна БУСЛА.

## ПЛАН правядзення мерапрыемстваў, прысвечаных Дням памяці яўрэяў, загінуўшых на тэрыторыі рэспублікі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, «Кадыш–жальба»

### 19 КАСТРЫЧНІКА

15.00 — Адкрыццё выставы кніг у Нацыянальнай бібліятэцы
16.00 — Адкрыццё тыдня яўрэйскага кіно ў кінатэатры «Беларусь»
17.00 — Адкрыццё рэтраспектыўнай выставы ў Палацы мастацтваў; — Правядзенне мерапрыемстваў памяці ў школах

### 20 КАСТРЫЧНІКА

11.00-13.30 — Знаёмства з Мінскам. Паездка па месцах расстрэлаў яўрэяў, наведванне мемарыялаў
15.00-18.30 — Адкрыццё экспазіцыі, прысвечанай ахвярам генацыду ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны; — Навуковая канферэнцыя ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны
19.00 — Наведванне тэатра імя Я. Купалы

### 21 КАСТРЫЧНІКА

10.00 — Ускладанне кветак да помніка Перамогі і наведванне мемарыяльнага комплексу «Хатынь» (дзве групы ўдзельнікаў)
11.30-13.00 — Мітынг на месцы знішчэння Мінскага гета (вул. Заслаўская), шэсце па вул. Сухой і адкрыццё мемарыяльнай дошкі ахвярам генацыду — гамбургскім яўрэям на яўрэйскіх могілках
12.30 — Трансляцыя па тэлебачанні малітвы аб загінуўшых, Кадыш
15.00-16.00 — Сустрэча кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь з былымі вязнямі Мінскага гета
17.00 — Сустрэча ўдзельнікаў мерапрыемстваў з творчай інтэлігенцыяй рэспублікі ў Рускім драматычным тэатры

### 22 КАСТРЫЧНІКА

11.00-12.30 — Урачыста-жалобнае пасяджэнне, прысвечанае памяці яўрэяў, загінуўшых на тэрыторыі рэспублікі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (Дзяржаўны акадэмічны вялікі тэатр)
13.00-14.15 — Канцэрт-рэквіем

## ВОПРОС ИЗ КОНВЕРТА



**Какой продолжительности отпуск установлен для няни, работающей в ясельной группе яслей–сада?**

**Людмила ВОЛОХОНОВИЧ.**

**Обучаюсь на 3–ем курсе института заочного отделения. В этом году мне отказали в оплате отпуска для выполнения лабораторных работ, мотивируя тем, что в институт я поступала без направления нанимателя. Законно ли поступили со мной по месту работы?**

**Раиса ПЕТРОВИЧ.**

На эти вопросы наш корреспондент **Галина КАЛЕВИЧ** попросила ответить ведущего юрисконсульта юруправления Госкомтруда **Людмилу Борисовну ОЛИКЕР**.

— На первый вопрос мы найдем ответ в Постановлении Госкомтруда СССР и ВЦСПС «О дополнительном отпуске медицинских и аптечных работников» от 16 июня 1988 г. В нем сказано, что лицам, работающим в детских яслях и ясельных группах яслей-садов в качестве няни (санитарки-няни), введен дополнительный отпуск продолжительностью 12 рабочих дней. Таким образом, общая продолжительность отпуска у няни — 24 рабочих дня.

ВТОРОЙ ВОПРОС. В соответствии со статьей 199 Кодекса законов о труде Республики Беларусь (в редакции от 15 декабря 1992 г.) работникам, успешно обучающимся в вечерних и заочных высших и средних специальных учебных заведениях по направлению (заявке) нанимателя либо в соответствии с заключенными с ним договорами (на подготовку, коллективным или трудовым), предоставляются минимальные льготы, предусмотренные законодательством.

Распространяется это на лиц, поступивших в высшие и средние специальные учебные заведения после введения в действие Кодекса законов о труде, т.е. после 26 февраля 1993 г.

Согласно Постановлению Верховного Совета Республики Беларусь от 15 декабря 1992 г. «О введении в действие Закона Республики Беларусь «О внесении изменений и дополнений в Кодекс законов о труде Республики Беларусь» лица, поступившие на учебу без отрыва от производства в высшие, средние специальные и профессионально-технические учебные заведения до введения в действие указанного Закона, пользуются ранее установленными гарантиями и льготами до окончания соответствующих учебных заведений.

Это означает, что вы как студентка-заочница 3-го курса имеете право на оплачиваемый отпуск для выполнения лабораторных работ при условии успешного обучения и отсутствия задолженностей.

## КУЛЬТУРА ДЕЛА

# МОДА ИЛИ НЕОБХОДИМОСТЬ?

Ирина ГЕРМАНОВИЧ, «ДВ».

**Вам нужен новый пылесос или шкаф, или, скажем, зубная щетка с определенной, подходящей только Вам длиной щетины? Пожалуйста! Воспользуйтесь рекламой и вызывайте на дом в удобное для Вас время агента. Консультируйтесь, выбирайте, делайте заказ, дополняйте его собственными условиями: увеличенная длина шнура, шланга или более удобное для Вас расположение выключателя, цвет, размер и т.д. Заказ поступает в фирму–изготовитель, где по нему изготавливается Ваш товар в оговоренный заранее срок.**

Сказки, не правда ли? И тем не менее, такое положение вещей давно стало нормой в странах с развитой рыночной экономикой, где фирмы-производители сами ищут покупателя. Нанимают агентов по продаже: больше оформишь заказов, лучше поработаешь с заказчиками — больше заработаешь. И запускают в производство только ту продукцию, на которую уже имеется заказ. Работа на склад исключена. Координируют работу агентов по продаже, производственных служб, сбыта и сервиса специалисты по маркетингу. В зарубежных фирмах заместитель по маркетингу — первый человек после руководителя.

Что же такое маркетинг? Это мода или необходимость? Рассказывает генеральный директор Республиканского центра промышленного маркетинга, менеджер высшей квалификации Валентин Дмитриевич БРАИМ:

— Исследователи утверждают, что первая маркетинговая организация была создана в США в 1908 году. Сначала она была чисто сбытовой фирмой. Затем стала заниматься разработкой стратегии продвижения продукции к потребителям. Потом службами маркетинга обзавелись все крупные фирмы, а сам маркетинг стал частью концепции управления капиталистическим производством.

По мере движения нашей экономики к рыночным условиям хозяйствования слово «маркетинг» все чаще и чаще мы встречаем в повседневной практике. Кое-кто трактует его как «искусство спекуляции». Большинство специалистов-практиков обозначают этим словом работу по изучению новых рынков сбыта продукции. А вообще термин «маркетинг» происходит от английского «market» — рынок, и означает деятельность на рынке. Современный маркетинг — сложнейший механизм организации и управления производственно-сбытовой деятельностью.

*— Нужен ли маркетинг нашим предприятиям?*

— Несомненно. Получение прибыли стало единственно возможным условием выживания каждого предприятия, каждого товаропроизводителя. Следовательно, все они, — от крупного промышленного объединения до частного предпринимателя, — сегодня перед выбором. Или по зарубежному опыту, во многом более эффективному, внедрять и использовать маркетинг. Или изобретать свой «велосипед», пытаться видоизменить традиционные схемы. Пока, судя по проведенному нашим Центром анализу 220 промышленных предприятий Беларуси, развитие маркетинга идет крайне медленно и непрофессионально. В погоне за «модой» на многих предприятиях отделы сбыта просто переименованы в отделы или центры маркетинга. Но маркетинг — особая работа, которая сначала должна предшествовать производству, затем сопровождать его до полного изготовления продукции и ее доставки потребителю. Кроме этого, современный маркетинг предписывает создание сервисного обслуживания, максимально обеспечивая работоспособность продукции. Иначе будет потерян авторитет и марка фирмы в целом.

*— Валентин Дмитриевич, умеют ли, могут ли наши производственники работать не на привычный Его величество план, а на конкретного потребителя? Зачем им лишние хлопоты: изучай спрос, соразмеряй с ним цену, «доходи» до каждого потребителя. Тем более, что и обилия товаров как-то не наблюдается: что есть — то и бери. Зачем им маркетинг?!*

— Конечно, одна из причин игнорирования маркетинга — отсутствие опыта, знаний, умения и желания работать по-иному. Нет даже желания учиться, чтобы суметь применить более прогрессивные формы управления производством. Казалось бы, весь мир своим развитием показал и доказал преимущества этих форм. Но у нас почему-то очень уж сильны надежды на старый опыт, старые кадры, старые, изжившие себя подходы. Куда уж до новой продукции — снижается производство даже и той, что ранее выпускалась. Причины общеизвестны: разрыв прежних хозяйственных связей, нехватка комплектующих и сырья...

*— Многие, в том числе и правительство Беларуси, выход видят лишь в экономическом союзе, в рублевой зоне «нового типа». Достаточно ли этого шага для суверенной Республики Беларусь? Страны Балтии пошли своим путем, и, как видно, не ошиблись.*

— Уверен, для независимой Беларуси уповать только на этот союз — крайне недостаточно. Жизненно важно активнее действовать самим. Например, начинать глубокую и системную работу по изучению и анализу ситуации на мировых рынках. Постоянно собирать и накапливать информацию о ценах на продукцию в различных регионах СНГ и мира. Очень важно также изучать принципы торгово-промышленных отношений в мировой экономике, торговой политики, деятельности финансового капитала в разных странах. Речь идет не только о привычной ориентации лишь на продажу товара, а в большей мере о поиске деловых партнеров на долгую перспективу, объединение интересов. Это во многом решит проблему как иностранных инвестиций, так и сырьевых ресурсов. Давайте умело использовать преимущества Беларуси: выгодное местоположение в центре Европы, и дешевая рабочая сила, и большой научно-производственный потенциал.

**Валентин Дмитриевич посетовал, что квалифицированных менеджеров, специалистов по маркетингу в республике считанные единицы. Где и как освоить современные принципы маркетинга? На первый взгляд, нет проблем. Газеты, радио, рекламные проспекты пестрят предложениями. Вплоть до получения за одну–две недели дипломов престижных зарубежных институтов и бизнес–школ. При знакомстве с подобными экспресс–курсами, с никем не рецензируемой литературой, изданной по неумело собранным материалам из зарубежных переводных источников, серьезному специалисту становится, мягко говоря, грустно за состояние обучения маркетингу в Беларуси. Чтобы как–то повлиять на удручающие процессы, помочь предприятиям научиться цивилизованно работать на рынке, Центр «Белпром–маркет» стал инициатором создания Белорусской ассоциации маркетинга. Ее учредили около 60 промышленных предприятий и организации различных отраслей и форм собственности.**

## ГЭТА ФАКТ

# АДНА СТРАХОЎКА НА ЎВЕСЬ ЗАВОД

Паводле звестак БелаПАН, беларуская дзяржаўная страхавая камерцыйная арганізацыя «СКАРБ» зацвердзіла парадак і ўмовы новага віду страхавання, якое раней не прымянялася, — медыцынскага страхавання з лячэннем за мяжой.

Згодна з новымі правіламі, «СКАРБ» прымае на сябе адказнасць па кампенсацыі сваім кліентам выдаткаў за лячэнне, праведзенае за мяжой. Сюды ўваходзяць, напрыклад, выдаткі на набыццё авіябілетаў з Беларусі ў краіну лячэння і назад, выдаткі на шпіталізацыю і медыцынскае абслугоўванне, уключаючы аплату ўрачоў, лабараторных паслуг, набыццё органаў-трансплантантаў, іх захоўванне і інш. Аплата жылля ажыццяўляецца пры ўмове, калі ўрачы прызнаюць лячэнне як неабходнае. Прадугледжана, у прыватнасці, лячэнне расшырэння сардэчных артэрый, замена кардыяльных клапанаў, трансплантацыя сэрца, лёгкіх ці печані. У залежнасці ад складанасці лячэння вызначана страхавая сума ў памеры ад 4,5 да 125 тысяч долараў.

Трэба адзначыць: калі дагавор заключае фізічная асоба, то, згодна з умовамі страхавання, застрахаванымі лічацца ўсе члены яе сям'і, калі ж арганізацыя ці прадпрыемства, — усе яго работнікі.

Аляксандр МАЛЧАНАЎ, БелаПАН.

